Рэцэнзент С. Г а ў р у с ё ў



***

Радзіма-маці!
Я тваё дзіця.
Тут я вучыўся чуць і бачыць.
Ці хопіць у мяне жыцця,
Каб за дабро табе аддзячыць?

Ці хопіць мужнасці ў мяне
Стаяць насмерць, не пахіснуцца,
Калі шаленец рызыкне
На нас з табою замахнуцца?

**АДКАЗНАСЦЬ**

Жыць — гэта ўдзельнічаць
ў барацьбе,
Калі б мы і дзе б ні жылі.
Бяру адказнасць за ўсё на сябе,
Што робіцца на зямлі.

Не выбіраю зручнейшую з поз —
Цяжар узваліць каму б.
Дзед мой, плячом падпіраючы воз,
Парваць не баяўся пуп.

Зямля!
Твае лейцы ў чыіх руках?
Ты коцішся не бальшаком.
У рытвінах шлях па абодвух баках

Воз ці ўтрымаць плечуком?

Сюрпрызы чакаюць на кожнай вярсце
Век наш жыве ў барацьбе.
Сіла ў мяне — чалавека — расце,
Адказнасць бяру на сябе.

* * *
Той напамін заўжды са мной,
Ён ходзіць, нібы цень па пятах.
На ўсё пайшло ў нябыт з вайной
У пераможным сорак пятым.

У тайных схованках душы
Не гасне іскарка малая.
Яе ледзь-ледзь паварушы —
Кастром пякельным запалае.

Пячэ, як вугаль у руцэ,
І круціцца кіно нямое:
Галосіць маці па дачцэ,
Якую гоняць пад канвоем.

А дзеці збіліся у гурт
Пад аўтаматам, як ягняты.
Я слова чорнае «капут»
Таксама чуў у сорак пятым.

* * *
Мяне расстраляла фашысцкая „рама”,
Агнём кулямётным скасіла.
Пачула ўся вёска, як жудасна мама
У роспачы загаласіла.

Я ў схованку бег, у загон канапляны
З яго гаркаватым пахам.
На ўзмежку каляным
Упаў расстраляны,
Пакуль што не куляй —
Страхам.

Маміны рукі жыццё мне вярнулі.
„Шчаслівы...” — суседкі рашылі.
Цела мне кулі не закранулі —
Душу навылёт прашылі.

Кажуць, крычу ўначы,
Пужаючы хатніх у сне.
Драпежныя крумкачы
Сэрца выдзёўбваюць мне.

На мулкай асенняй раллі
Ляжу пасярод вайны.
Медсёстры прайшлі, не знайшлі,
Зляцеліся груганы.

Аж цёмна ад іх уваччу,
А позірк не адхіліць.

Я нема ў неба крычу,
Мне сэрца нясцерпна баліць.

Не, я не быў на вайне —
Спазніўся, замалады.
Дык чый жа, скажыце тады,
Боль рвецца начамі з мяне?

* * *
Салдат спатыкнуўся, упаў на хаду,
Зямлю абхапіў пад сабою.
...Не дапалола маці граду,
Сэрца зайшлося ад болю.

Ён сёння ёй сніўся, малы, як гурок
(Прыпомнілася за работай),
Што быццам сыночак рабіў першы крок,
Яна ж назірала употай,

Як ручкай цягнуўся, а потым ступаў
Няцвёрдаю ножкай, нясмела...
Ды спатыкнуўся і вобзем упаў...
Ах! Падхапіць не паспела.

Рукі і ногі здранцвелі...
Трасе...
Зрабілася, як нежывая...
...Няскора паперку яшчэ прынясе
Марудная палявая.

* * *
Пасівелы, яшчэ не стары —
Шэсцьдзесят не адолеў год —
Паміраў франтавік на зары
Пад акорд навальнічных грымот.

Боль у сэрцы не адпускаў,
А ў трызненні нязменны быў сон:
Быццам рану рукой заціскаў,
У атаку ўздымаў батальён.

* * *
Аб чым мы з табой памаўчым
Перад працягам дарогі?
Быў лёс наш не злосны айчым,
А бацька — разумны і строгі.

Патачкамі не зневажаў,
Наш гонар бярог чалавечы.
Мужчынскі цяжар нагружаў
Нам на хлапечыя плечы.

Мы бралі яго ямчэй,
Каб ногі не гэтак трымцелі...
Каціліся слёзы з вачэй —
Мы дзецьмі пабыць хацелі.

* * *

Мы маладыя былі
І большага не хацелі.
Лёгка ішлі па зямлі,
Нібы на крылах ляцелі.

Голад — не навіна,
Касцюм з шыняля старога.
З дзяцей і дарослых вайна
Спытала аднолькава строга

Здадзены цяжкі іспыт,
На годнасць рашылі задачы...
Як шмат сёння дбаем пра быт:
Крышталь, легкавушкі, дачы...

Я дабрабыт не кляну.
Я памятаю вайну.

## КІНО МАЙГО ДЗЯЦІНСТВА

„Мама, пусці ў кіно,
Ваенная сёння карціна...”
Завешана коўдрай акно,
Белым світае прасціна.

Рухавічок — не руш!
Заглохне ці завядзецца...
Даём матарысту ігруш,
Прапусціць, куды яму дзецца?

Механік жа — маг, чараўнік,
Чаруе — і ўмела, і смела...
Кадры пабеглі...
Ды знік
Гук...
А і так зразумела.

З салдатамі дзетвара
Разам страляе і коле.
І пераможным „ура!”
Поўніцца наваколле.

* * *

Раслі, як кажуць, самапасам,
Мы — „пацаны”,
Сыны вайны,
Хоць часам
І трапляла пасам
За шкоду нам ніжэй спіны.

Але якія дзеці ў свеце
Баяцца матчынай рукі?
Тым больш знаёмыя са смерцю
З блакаднай пушчы хлапчукі...

Каго і білі, і бамбілі,
Палілі жудаснай вайной,
Якія за бацькоў рабілі

З пілой, касой і бараной.

Пакуль падняліся на ногі,
Ох, даўся ў знакі самапас...
Між педагогаў самы строгі —
Вялікі час
Выхоўваў нас.

* * *
Прыкметы канкрэтнага часу
Зарубкамі ў сэрцах у нас.
Я — вучань чацвёртага класа,
А ў вёсцы ствараюць калгас.

З рашэннем вагалася мала
Бясхлебная наша радня.
Праблема адна трымала:
Трэба аддаць каня.

Былы партызан, храманогі,
Баец, што ад стрэлаў аглух.
Як будзем без гэткай падмогі?
Цягнуў жа калёсы і плуг.

Ля печы сямейнае веча...
„З канём хоць праснак мы ядзім...”
Я маме раней не пярэчыў,
Цяпер прашаптаў: „Аддадзім...”

На твары схуднелым і сумным,
Усмешка, як водбліск душы.
„Ты — гаспадар мой разумны,
Заяву, сынок, напішы...”

* * *
Што вабіла нас, што займала
Дзяцей пакалення майго?
Жыццё нам задачак нямала
Давала такіх, што — ого!

Не сённяшнія акселераты —
З вайны мы заморкі былі.
Мой брат у пятнаццаць — араты –
Мяне прывучаў да зямлі.

Запрэгчы каня — задачу
Рашаў я гадоў з дзесяці.
Хамут не накіну — і плачу:
Мне б крышачку падрасці.

Ці сукаватыя дровы
Пілуем — аж іскры з вачэй.
І кпіць з мяне брат:
„Здаровы!
Не тузай, пускай лягчэй...”

Дзяцінства гаротнага ўрокі
Я ў сталы свой лёс панёс.
Гарчыць успамін далёкі,
Саланаваты ад слёз.

## ГЕРОІ ВЯЛІКАЙ ВАЙНЫ

На ворага лютага ў бітву ішлі,
Мужна, з адкрытым забралам.
Не на курорце —
На фронце былі,
Вайна іх юнацтва забрала.

Цяпер бы спакойненька адпачываць,
Пісаць у цяпле мемуары...
А ім праз гады навальніцы чуваць,
Крывавыя сняцца пажары.

І круціцца стужка нязгасных падзей,
Былое ў нябыт не сплывае,
І зоркай світальнай гарыць між людзей
Іх слава, навечна жывая.

## ДЗЯЦІНСТВА

Летні пяшчотны ранак,
Блішчаць дыяменты ў траве.
Мама выходзіць на ганак.
— Пыль-пыль...— пылянятак заве.

І вывадак, як нашэсце,
Бяжыць стрымгалоў ад гумна.
Маме ўжо не прысесці
Да вечара, дацямна.

Я маме дапамагаю,
Нялёгкую ношу цягну,
І ўпотайкі шаблю стругаю,
Гуляю яшчэ ў вайну.

* * *

Поплеч са мною — сцяною
Мае аднагодкі-сябры.
Падпаленыя вайною
Падранкі суровай пары.

Яны не дадуць паваліцца,
Напояць гаючай вадой.
Мне з імі да скону дзяліцца
Радасцю і бядой.

## ПАРТЫЗАНСКІ СУД

Немцаў адбілі вялікай крывёй,
Цаной незваротных страт.
Але злавілі таго, хто прывёў
Да лагера карны атрад.
Ён меў магчымасць яшчэ паглядзець,
Як з лесу забітых нясуць.
А потым, як выстрал, кароткае:
„Смерць!" —
Сказаў партызанскі суд.
„У нас для расстрэлаў штату няма,
Таму прызначаем нарад..."

Ды хтосьці прамовіў:
„Не трэба… дарма…
Я сам расстраляю… брат…”
Ад лагера ў бок, за быльнягі,
Пакрочылі ў цёмны лес.
Адзін згарбаціўшыся, а другі
З вінтоўкаю наперавес.
Апошні выстрал у гэты дзень
Грымнуў і ў дрэвах ачах.
Без сіл стралок апусціўся на пень —
Стаялі кругі ў вачах.

## ДЗЯЎЧАТЫ ВАЯВАЛІ НА ВАЙНЕ

Дзяўчаты ваявалі на вайне,
У лёсу паслаблення не прасілі.
Мясілі гразь.
На худзенькай спіне
І зброю, і параненых насілі.

Свісталі кулі.
Грукаў мінамёт.
Зямлю снарады на шматкі ірвалі.
Дзяўчаты мёртва падалі ў сумёт,
Жывых сабой ад смерці закрывалі.

Шалёны вецер праціназ да слёз.
Ішлі мы ў гарнізоны праз заслоны.
Загінуць боязна…
Страшней быў іншы лёс:
Нечалавечы,
Дзікі здзек палону.

Дзяўчаты ваявалі на вайне.
У лёсу паслаблення не прасілі.
У рэчмяшку на худзенькай спіне
Люстэрка прыхаванае насілі.

## МАЦІ

Пасля фашысцкай навалы
Беднасць у нас панавала.
Мама апошні кавалак
Меншанькаму аддавала.

Яна мяне шкадавала,
Рос я слабенькі і ценькі,
Хлеба ж у нас не ставала,
Мукі не было і жменькі.

Роднае разнатраўе!
Табе павагу аддаў я.
Шмат што пакаштаваў я —
І лебяды, і шчаўя.

Мацнела наша краіна,
Полудні нашы даўжэлі,
Але не выпроствалі спіны

Маці,
Каб дзеці дужэлі.

Яны нам усё аддалі,
Каб толькі не галадалі,
А мы іх адных пакідалі,
Нас вабілі сінія далі.

Паехаў і я, вядома,
Смяяўся: „Слёзы навошта?”
Рэдка бываў я дома,
Мінала падворак пошта,

Ліст напісаць да мамы
Няма калі — спраў завозна.
Ачнуўся ад тэлеграмы.
Запозна, запозна, запозна...

* * *

Раптам прыпомніцца штосьці,
Як з фільма, малы эпізод
З дзяцінства ці з маладосці,
З часу нягод і прыгод.

І зробіцца горка і смешна,
Балюча да нематы:
Няўжо гэта я — гэткі грэшны?
Няўжо гэта я — святы?

* * *

*Рыгору Барадуліну*

Чалавек па зямлі ідзе,
Заблудзіўся, падбіўся ў дарозе.
Хто ў бядзе да жытла давядзе?
Хто не дасць паваліцца ў знямозе?

„А загад?” — прабурчыць бюракрат,
„Дзе ўзяць вагі адважыць увагі?
Ці не будзе лічыцца за блат —
Напаіць з жыццядайнай біклагі?”

Мудракі
Не працягнуць рукі...
Толькі ёсць дзівакі на свеце.
Скажуць: „Мы на зямлі — землякі,
Мы адзінага часу дзеці.

Замарыўся — у хату прашу,
Хочаш есці — вось хлеб і да хлеба.
Аднаго не аддам — душу,
Бо самому пакуль што трэба...

Ды і то, як цяпла не стае,
Каб мароз не схапіў знянацку,
Падзялю на дваіх і яе —
Па-зямляцку, па-брацку...”

* * *
Як хутка прыцемак наспеў!
А дзень быў светлы, яснавокі.
Любіў сяброў я, песні пеў,
З дзяўчатамі хадзіў у скокі.

Ішлі гады — такой бяды...
Мы даніну гадам аддалі.
Пасля агорклай лебяды
Як цуд — шашлык і „Цынандалі”!

Шык да апошняга рубля
(Віно і кветкі для сяброўкі!).
Ён не ад поўнага валля,
Ён адгалосак галадоўкі.

І зноў за працу.
Важкі куль
Мяне хістаў, а я трымаўся...
Я ганаруся, што куркуль
З мяне пакуль не атрымаўся.

**ЗЕРНЕ**

Зноў веснавое раздолле,
Трактару, як караблю.
Выедзе сейбіт у поле,
Зерне пасее ў раллю.

Ведае ён: і ўвосень
Хопіць работы яшчэ,
Ён спелае золата скосіць,
Змалоціць і хлеб спячэ.

І звычай абновіць дзедаў:
Песняй уславіць зямлю...
...Каб я гэтаксама ведаў,
Што будзе з таго,
Што раблю...

* * *
Народнае
роднае слова
Жыве,
нібы песня плыве.
Серпікам маладзіковым
Удзельнічае на жніве.

Ляжа акрайцам гарачым
На белы ручнік ільняны,
Гаротка-смяротным плачам
Зойдзецца ля труны.

У горы паспачувае,
Агорне даверам сваім.
У ім —
дaўніна сівая
І сённяшні дзень —
у ім.

* * *

Перабіраю словы,
Як зерне перад сяўбою.
Суровы адбор, адмысловы,
Споведзь перад сабою.

Перабіраю з'явы.
Лёсу свайго палосы.
Што з летуценняў, што з явы
Разам усё сплялося.

Перабіраю сцежкі
Шчасця, тугі, адчаю.
Пяшчотнай тваёй усмешкай
Душу сабе ачышчаю.

* * *

Сцішуся на хвілінку,
Няведамы гук улаўлю:
Рытмічна, без перапынку
Штосьці скаланае зямлю.
Чую за ўдарам удар я
Ля вокан прыціхлых сваіх.
Здаецца, другое паўшар'е
З трывогаю слухае іх.
Выйду на золку на вулку,
Кліча вясна: „Не ляжы!"
Самааддана і гулка
Б'юць у зямлю капяжы.

* * *

Пакуль жывеш — не навіна
Памылкі і пралікі.
А мне душу пячэ адна
Віна — мой грэх вялікі.

Не, я не краў, не забіваў,
Хлусіць не ўмеў ніколі.
З людзьмі усё перажываў —
І гора, і застолле.

Я спатыкаўся і ў віне
Шукаў сабе ўцеху.
Марнела мама без мяне,
А я дамоў не ехаў...

* * *

Трэба крыху прыпыніцца,
Аддыхацца, адпачыць.
Вадой жыватворнай крыніцы
Смяглыя вусны змачыць.
Трэба вакол азірнуцца
На шлях у жытнёвых палях,
Да роднай зямлі дакрануцца
Рукамі, што ў мазалях.
Трэба гучней прызнацца,
Што краю няма мілей,
І духам вышэй прыўзняцца,
І крочыць далей і смялей.

* * *
Гісторыі вёрсты даўгія
Бягуць і назад не вяртаюцца.
„Тата, а немцы благія?” —
Дачка ў мяне пытаецца.

Напоўніцца сэрца гулам,
І высвеціць памяць былое.
Не ачарню агулам
Народа перад малою.

Я растлумачу ўсё чыста,
Хто нелюдзі і хто людзі...
„Тата, а скора фашыстаў
На свеце зусім не будзе?”

* * *
З дачкою васьмігадовай
За чаем
вячэру канчаем,
У гутарцы непрымусовай
Адзін аднаго вывучаем.

„Дык што там у школе, Оля?
Чым сёння ты свет здзівіла?
Двоечку або колік
На вудачку не злавіла?” —

„Пакуль што адны пяцёркі
Мне на кручок трапляліся...
Мы сёння каталіся з горкі,
У снезе ўсе навалялiся...”

Праходзіць размова гладка,
Я рады, дачка смяецца.
І ўсё ж мне здаецца:
загадка
Нейкая застаецца.

* * *
А хітрасць людская — мінус ці плюс?
Вучоныя як даводзяць?
Мярзотнік і ўгоднік,
Нягоднік і хлус —
З якой яны карты ходзяць?

Вунь — „сябра юнацтва”.
Мкне да мяне.
Радасны —пляскае ўладкі
Мне ўабдымках б'е па спіне
З усмешкай ласкава-гадкай.

„Джыгіт! На кані!
Не змяніўся ані!
Свежанькі — не запыліўся!”
...Ён дзверы кватэры мне
Не адчыніў,
Калі я „з каня зваліўся”...

„Трэ пасядзець, пагаварыць,

Выпіць сяброўскую чарку...”
Маўчу, як хлапчук.
Я не ўмею хітрыць.
Хочацца ўрэзаць па карку.

**КУРКУЛІ**

Куркулі —
Разліку каралі,
Нажылі чаму благую славу?
Не гулялі, „зелле” не пілі,
А калі —
Дык толькі „на халяву”.

Дамавітасць,
Дзелавітасць
Плюс
„Што даюць?” пытанне пры сустрэчы.
Распірае куркулёў, як флюс,
Прага іх спрадвечная да рэчаў.

Сябры два: загмаг
І вечны страх
За набыткі —
Аж трасуцца лыткі.
Вочка-ваўчанё ў глухіх дзвярах,
Нібы ў адзіночках для адсідкі.

Слесар ці прафесар —
Што той ранг,
Калі шашалем душа наскрозь пабіта?
Б'е па лбе злавесны бумеранг —
Сквапнасць —
Аскабалак дабрабыту.

* * *

Здавалася б: няма чаго трывожыцца,
Жыццё гучыць чароўнаю трубой.
Чаму ж у сэрцы паўсядзённа множыцца
Незадаволенасць самім сабой?

Здавалася б: чаго мне не хапае?
Ёсць сталы розум і здароўе ёсць.
Чаму ж штораз у сэрцы закіпае
Нічым жа не накліканая злосць?

Прычына ў тым, што лёгкі дзень ці тыдзень
Мне нібы жарт без трапнага канца.
Глядзіць з люстэрка бесклапотны злыдзень
Замест вясёлага і добрага хлапца.

* * *

За што мы свой вопыт купляем
У хітрых гадоў-гандляроў?
Сябе агаляем:
Губляем
Найбольшыя скарбы —
Сяброў.

Хапаємся прагна за рэчы.
Хаваемся ад скразнякоў.
Цураемся пры сустрэчы
Непрабіўных сваякоў.

І рады:
Пазбеглі памылкі.
Парады даём пакрысе.
Не думаем:
Хто да магілкі
Нам кветачку прынясе?

* * *
Я — чалавек.
Я памыляюся.
Здараецца, меркай фальшываю меруся.
Перад нахабствам, бывае, губляюся,
А перад сціпласцю —
Зафанабэруся.

Я — чалавек.
Я памыляюся.
Лічу сябе мудрым, дзе трэба параіцца.
Грубаю сілай падчас захапляюся,
А з чулай душы пасмяюся,
Здараецца.

Я — чалавек.
Я памыляюся.
Упоравень з векам каму лёгка крочыцца?
Я выпраўляць сябе
Не адмаўляюся.
Лепшым зрабіцца —
Каму з нас не хочацца?

* * *
Цудоўная рыса:
Пытацца,
Вучыцца,
Не ганарыцца,
У роспачы спадзявацца,
Душой не баяцца адкрыцца.

Цудоўная цяга
Да шчырай
Згоды людзей і прыроды,
У сцюжу не лётаць у вырай
Ад роднай зямлі,
Ад народа.

* * *
„Дайце мне пункт апоры —
Перакулю Зямлю...”
Нават у чорным гуморы
Сябе з рычагом не ўяўлю.

Не трэба апоры вар'яту :
Валіць — галава забаліць.
Ёсць новыя варыянты:
Зямлю не куляць —

Спапяліць.

Не кінуць жывой прыкметы,
Дзе горад буяў, дзе лугі.
І Чакаюць каманды ракеты,
Злавеснай сваёй чаргі...

* * *
Поўная хата гасцей
Бывала ў мяне калісьці.
Шукаю цяпер часцей
З журбы ў адзіноце выйсця.

З думкамі сам-насам —
Свой лёс разбіраю нанова.
Наношу візіты лясам,
Нівам і сцежкам жытнёвым.

І думкі ўжо не пра сябе —
Бачацца родныя далі
І людзі, што вечнай сяўбе
Да рэшты жыццё аддавалі.

* * *
Мы — з жывою душой, не насценныя фрэскі,
І па-рознаму кожны сябе адчувае.
Не прашу прабачэння, што грубы і рэзкі,
Раздражнёны занадта часамі бываю.

У жыцці не за кошт цягавітых пасуся —
Што зароблена працаю, тым і багаты...
Не люблю афарызм: „Перш за бацьку не суйся...”
Ненавіджу разумніка з крайняе хаты...

Многа шкоды было ад уяўнай лагоды.
Прызнаюся: маўклівасці вельмі баюся.
Прайдзісветам не дам свае ціхае згоды.
Б'юся з імі заўсёды... з імі грызуся...

* * *
Паганяю час, нібы каня,
Лейцы часу смела адпускаю.
Надыходу заўтрашняга дня
Нецярпліва, молада чакаю.

Спадзяюся:
Нешта прынясе
Светлае...
А што — і сам не знаю.
Менее надзеі пакрысе,
Я ж каня — у пене — паганяю...

* * *
Чагосьці чакаю —
                    не дачакаюся.
Перажываю пражытае нанава.
Не папракаю сябе
                    і не каюся,
Што жыў безаглядна, стыхійна,
                         няпланава.

Уласны мой лёс
пераплёўся з падзеямі

Сусветных маштабаў,
з касмічнай мяцеліцай...
Трывожны свой дзень
суцяшаю надзеямі,
Што ўсё будзе добра,
Што ўсё перамелецца.

* * *
Апрануся на досвітку раненька-рана,
Павядзе мяне сцежка на поле далёка.
Пахне хлебам, і хмеліць дзірван узараны,
Набрынялы зямным узыходзячым сокам.

І тады неадольна паўстане пытанне:
„Ну а ты — ці ўзараў сваё хлебнае поле?”
І прычыны не знойдзецца для апраўдання,
Што душы адпачынак заўчасны дазволіў.

* * *
Чалавек імкнецца да святла,
Гэта натуральнае імкненне.
І трава б на лузе не расла
Без гаючых сонечных праменняў.

Чалавек імкнецца к сонцу ўверх,
Ён спрадвек сябе крылатым лічыць.
Нават вераб'і з вясковых стрэх
Нас прыўзняцца над зямлёю клічуць.

Чалавек імкнецца да людзей,
Там святло, там вышыня, там сонца.
Толькі той, хто з грамадой ідзе,
Можа шчасце адчуваць бясконца.

* * *
Ніхто не вечны на зямлі,
Свой час для кожнага настане,
Хоць не адкажа на пытанне
І наймудрэйшы: „А калі?”

Жыццё бясконцае бяжыць,
Яно адно не памірае,
Пакуль яно нам патурае,
Здаецца, вечна будзем жыць.

Адыдзем...
Родная зямля
Нас перародзіць у сцяблінку,
Затым і кропельку-крывінку
У цёплым цельцы немаўля.

* * *
**Ляці са сваімі гадамі,**
**Пільнуйся сваёй чарады...**
***Рыгор Барадулін***
Мяне цяжар жыцця хістаў,
Мне дываноў мой лёс не выткаў.

Я ад равеснікаў адстаў —
У сэнсе славы і набыткаў.

Не даганяю чараду,
А запаволенай хадою
З нялёгкай ношкаю іду
Пад гагатанне маладое.

## У САМАЛЁЦЕ

За аблокамі снегу няма,
За аблокамі сонейка свеціць,
Быццам лета, а не зіма
Гаспадарыць на белым свеце.

Не прыкмецілі, як і калі
Праляцелі праз покрыва ваты.
З-за аблокаў нябачна зямлі,
Пачуццё, нібы ў чым вінаваты.

Быццам хтосьці, каго ты любіў,
Зачакаўся ў маркотнай самоце,
Быццам нечага недарабіў
У галоўнай сваёй рабоце.

Быццам блізкага сябра ў бядзе
Ты пакінуў без дапамогі.
Самалёт на пасадку ідзе.
Пад крылом не аблокі — Аблогі.

Зноў стаю на зямлі.
З-пад нагі
Не ўплывае яна, не ўцякае.
Я іду аддаваць даўгі...
О, вялікая радасць якая!

## ТАПОЛІ

Па вуліцы цягнуць таполі
Тварамі па зямлі.
Не ў пушчы, не ў лесе, не ў полі
Тры прыгажуні раслі.

Іх пасадзіў невядомы
Салдат, як прыйшоў з вайны.
Вясной, колькі помню, ля дома
Шумелі лістотай яны.

Залівіста кожнай вясною
Свісталі ў таполях шпакі.
На лаўцы пад цёплай сцяною
Курылі махорку дзядкі.

Дом састарэў.
Разбурылі.
Тут вырасце новы палац.
Пілы загаварылі:
„Расчысцім палацу пляц”.

Ніхто іх не ўзяў на парукі,
Сумны іх лёсу працяг.
Заломана голле, як рукі,
Выкручаныя ў лакцях.

І трактарам цягнуць таполі
Па вуліцы і па вясне.
Заходзіцца сэрца ад болю,
Як быццам тралююць мяне.

* * *
Вясновыя дні праляцелі,
За летам і восень міне.
„Вы б нанава жыць захацелі?”
Падлетак пытае ў мяне.

Цудоўная прапанова —
Яшчэ раз пачаць з вясны.
Але не хачу нанова:
Хапіла адной вайны.

* * *
Снегам засыпаны сцежкі,
І дрэвы ўсе ў белым адзенні.
„Давай пагуляем у снежкі,
Праедзем на ўласным сядзенні.

Зіма як для ўцехі створана,
З гурбамі і заваламі.
Гэта ж амаль што сорамна —
Быць вось такімі сталымі.

Пакуль трамвая няма яшчэ,
Гайда напрасткі праз сумёты...
Што ты за сэрца трымаешся?”
...Б'юць праз гады мінамёты...

* * *
Грукочуць гулка цягнікі,
Глытаюць кіламетры.
Пара душы — на скразнякі,
На вольнае паветра.

Даволі паміж сцен мадзець,
Нібы арыштаванай.
Жыццё цікава паглядзець
З вышыняў рыштаванняў.

Мантажнікі-будаўнікі
Праверацць якасць дбайна:
Калі ёсць брак, то на крукі
І знак рукою: „Майна!”

І пастаяць, і памаўчаць,
І назаўжды адлучаць.
Жыццё не трэба вывучаць —
Яно само навучыць.

Калі ж рабочы люд сваёй
Цябе, душа, прызнае,

Тады хай лашчыць снегавей,
Мяцеліца скразная.

* * *
Пашумець, падурэць і суцішыцца.
Памудрэць вымагаюць гады.
Працаваць,
Бо нічога не спішацца,
Што нявопытны ды малады.

Да жыццёвай вяршынкі
сцяжынка
Прывяла і пабегла — куды?
Месяц жнівень.
Спраўляю зажынкі.
Ураджаю
здымаю
пуды.

* * *
Ад новых мадэрновых слоў,
Ад шкла, бетону і „трайчатак"
Бягу ізноў
Да тых асноў,
Адкуль жыццё бярэ пачатак.

Не па азон, не па грыбы,
Не адпачыць бягу ў суботу.
Дзень вераснёвы — конь рабы,
Упрэў, запрэжаны ў работу.

Не пазнаюць.
„Ты хто? Адкуль?"
„Я ваш, вясковы, ёлкі-палкі!"
Кідаю прэч я свой хатуль,
Збіраю бульбу з-пад капалкі.

* * *
Сцёрся лірычны вехаць,
Няма чым душу шараваць.
Кінуць бы ўсё ды паехаць
Па вёсках павандраваць.

Ісці, не баяцца спазніцца,
Паміж палёў, пехатой.
Піць ненатольна з крыніцы
Матчынай мовы святой.

Не любавацца
Працай,
Раніцаю б вясной.
З віламі б паўпірацца,
З хлява павыкідваць гной.

Адчуць бы на ўласным карку,
Адкуль у блінная бліны.
Выпіць з мужчынамі чарку
Вечарам пад выхадны.

І потым — схмялелы, самлелы —
Паказваць мазалі,

Жаліцца, што забалела
Душа па зямлі.

* * *

Вырваўся —
Мікравандрую,
Дзе еду, дзе пешака.
Трапіў на станцыю Друю
З ранішняга цягніка.

Пасёлак
Вясенне-вясёлы,
Твары — няма тугі.
Не ў цэркаўках і не ў касцёлах
Жывуць тут, відаць, багі.

Вось яны, побач са мною,
З рукамі пад колер зямлі.
Палонены іх гаманою,
Асвоіўся ў іхнім вуллі.

Аўтобусік цесны трасецца.
Выходзяць, заходзяць — свае.
Дыхаю ў вуха суседцы,
Прыціснуты да яе...

**БРАСЛАЎ**

Будзь блаславёны, браце Браслаў,
Працуй, звіні і гамані!
Хачу, каб і праз дні не згасла
Святло сардэчнай дабрыні.

Даваў ты ворагу па карку,
Быў на вайне
Не ў старане.
У цэнтры, ля райкома ў парку
Жыве вавёрка на сасне.

Дзіцячы утрапёны тварык
І вачаняты-спарышы.
Мільгае хвосцік, як ліхтарык,
І ўміг світае на душы.

Прыходзіць так любоў — знадворна,
Спачатку рысачкай адной.
Блакіт вачэй азёрна-зорны
Твой
І людзей тваіх —
Са мной.

* * *

Найшыкоўнейшы шык —
Таматны сок
У браслаўскім рэстаране.
Дзяўчына,

Нашто церабіць паясок?
Да густу мне ваша старанне.

З прыемнасцю слухаю ваш галасок.
Заказваю: скваркі, капусту.
Што буду піць?
Таматны сок.
Мне гэта пітво да густу.

Дзяўчына крыўдуе:
„Даволі вам кпіць,
Вы ж не адзін у зале.
Пытаю канкрэтна:
Што будзеце піць,
Калі запіваць заказалі?”

* * *
Ці еду куды, ці ляту, ці іду,
Ці баўлюся дома яшчэ.
Сэрца ў трывозе, як на бяду,
Нешта ў грудзях пячэ.

Якую праграму падрыхтаваў
Назаўтра бязлітасны лёс?
Што б ні было — ад людзей не хаваў
Ні шчасця свайго я, ні слёз.

Вітаю мой дзень!
Хай самота, нуда
Прыходзяць у сэрца радзей...
Калі ж і папраўдзе сустрэне бяда —
Подбегам да людзей.

* * *
Часта чуюцца мне галасы
Праз палі, праз лугі, праз бары.
Гэта клічуць мяне праз часы
З маладосці маёй сябры.

Я ў адказ ім гукаю „ау!”,
Толькі голас мой сеў, пастарэў.
На маю галаву і ў траву
Лісце жоўтае сыплецца з дрэў...

* * *
Пры жорсткай няўдачы
Не плачу,
Злосна зубамі не скрыгачу.
Пералапачу сябе,
Перайначу,
Ператрываю, перамаўчу.

Перагарую,
Перахварэю
Хваробай, няведамай урачу.
Прачнуся абноўлены —
І памудрэю,
І дамагуся таго, што хачу.

## ВЯСКОВАЯ САУНА

Калі для народа — не шкода.
Капейка — была не была!
На фінскія лазні мода
І ў вёску цяпер прыйшла.

Палок — аж на тры персоны,
Ляжы, развражай, пацей.
Побач — буфет перасоўны
З каморкай для лепшых гасцей.

З парыльні даносіцца пошчак
Веніка
І мармытня...
Там туза раённага хвошча
Уласнай рукой старшыня.

* * *
Давай на закуску
Па-беларуску —
Бульбу гарачую і агурок,
Хлеб ды цыбуліну,
Соль упрыкуску,
Песню няхітрую пра чабарок.

Ціхай парою
У добрым настроі
Сэрца да сэрца мкне нацянькі.
Хто мы такія?
Што за героі?
Простыя сціплыя працаўнікі.

Хай так і будзе.
Вып'ем, як людзі,
Як выпівалі бацькі і дзяды.
Шклянкай ці чаркай —
Сваркай не спудзім
Вечара летняга лёгкай хады.

* * *
Не верыць у бога — не значыць
Жыць, як само набяжыць.
Нічога святога не бачыць,
Душэўнасцю не даражыць.

Саборы, касцёлы, капліцы —
Стары антураж —
не наш.
Працы і праўдзе маліцца
Буду да скону аж.

* * *
Гамонка шматслоўная, а ні аб чым,
Так, дробязі, тары-бары...
Давайце суцішымся і памаўчым,
Паразважаем, памарым.

Хай душы ад дробязнасці адпачнуць,
Працверазеюць галовы.

Чаканыя думкі прыходзіць пачнуць,
А з імі — чаканыя словы.

## У ПАДТРЫМКУ ПРАВІЛАЎ ДАРОЖНАГА РУХУ

Не перавышайце хуткасці,
Вадзіцелі аўтамабіляў!
Стукнеце лбом — і не хукнеце:
Самі сябе забілі.

Хай сабе вам не дарага
Жыццё ваша...
Вы не маніце?
Вы ж добрых людзей, не ворагаў,
Анізашто тараніце.

Таварышы матацыклісты!
Запазухі ветрам напханыя,
Галовы, набітыя свістам,
Прычэп за спіной — каханыя.

Целы ў суладнай гнуткасці
Ляцелі...
А дзе вы аселі?
Не перавышайце хуткасці,
Згуляйце хаця б вяселлі.

Не перавышайце хуткасці,
Таварышы пешаходы!
Хадзіце па правілах людскасці,
Штурхацца не майце моды...

* * *

Можа, мне запісацца ў маўчальнікі?
Буду сцішана-чынны,
Бо маўчальнікаў любяць начальнікі
І кахаюць жанчыны.

Яд насмешачак выветру насуха,
Задажджэюць мішэні...
У маўчальнікаў — камень за пазухай,
Сціпла —
фіга ў кішэні.

* * *

Куль на спіне
Якраз па мне,
Хапае сілы.
Яшчэ цяжар гадоў не гне
Мяне пахіла.
І задаволены сабой,
Пакрочу з пыхай...
А сэрца — тах...—
І перабой,
І цяжка дыхаць...

* * *

Вось такія, браток, пірагі...
Лёс не фота — не ўціснеш у рамку.
Кожны робіць свае кругі
У адпаведным напрамку.

Ты дамогся, чаго захацеў,
Нібы ў космас на крылах сталёвых,
Да жаданых ты зор даляцеў —
Да свяцілаў у кропках гандлёвых.

Не патрапіць мне ў тыя кругі.
З гэткай славаю не параваццa.
Сэрца мкнецца ў палі, на лугі,
Вечна будзе да зор парывацца.

* * *

Імкнення такога не маю —
Душу прадаваць сатане.
Дзе б ні было, падтрымаю
Слабейшага за мяне.

Таму ж, хто дужэйшы,
Лісліва
У вочы не зазірну.
І ў цяжкасцях я шчаслівы,
Бо знаю сабе цану.

* * *

Што такое свята душы?
Каб адчуць набліжэнне шчасця,
Сцісні зубы і ўсё задушы,
Што жыццё тваё хмарна засціць.

Зайздрасць чорную, сквапную злосць
Выкінь з сэрца, як бруднае смецце.
На зямлі ты не пан-ягамосць,
Рупны сейбіт дабра на свеце.

Працаўнік — не турэцкі паша...
Анічога не прыйдзе ад бога.
Хай не ведае свята душа,
Хай у сэрцы пануе трывога.

* * *

Раніцай варыцца кава —
Пітво адганяць забыццё.
Паэты жывуць цікава,
Думаюць пра жыццё.

З душэўных глыбінь багатых
Людзям цяпло аддаюць.
Маці ў далёкіх хатах
Раненька ўстаюць.

Сцішана і нерухома
Замруць ля акна.
Зіма.

Паехаў сыночак з дома,
Пісьма няма і няма.

* * *

Голае голле над галавой,
Чэзне бярэзнік — пагоды чакае.
Восень спагадная з воўны сівой
За прасніцай седзячы, пражу сукае.

Вэлюм жалобны,
Чорны сувой
Шчыльна развешаны да небакраю.
Голае голле над галавой.
Вецер жалобныя песні іграе.

* * *

Жыву стыхійна, без раскладу,
І бескарыснае раблю.
Губляю над сабой уладу,
Масты то ўзводжу, то палю.

Буру гатовае, руйную,
Іду па дзікай цаліне.
Цябе, каханая, раўную
Да больш удалых за мяне.

* * *

Чалавек, якога я любіў,
Да якога я душой прырос,
Раптам збіўся, загуляў, запіў,
Лёсу воз пусціў наперакос.

Ах, якая чорная бяда…
Што ні дзень, то сябра „на мазі”.
З горкі вельмі хісткая хада,
Я крычу яму: „Затармазі!”

Нецвяроза засмяецца ў твар,
Зробіць позірк колкі, як асцё.
„Прапіваю не чужы тавар,
А сваё — уласнае — жыццё”.

Скажа так і слёзы пракаўтне,
Гляне праз вільготную смугу,
Як абвінавачвае мяне,
Як чакае, ці дапамагу.

## НА ТЭМУ „ЧЫЖЫК-ПЫЖЫК”

Жыў на свеце Чыжык-пыжык
І вясёлы,
І цвярозы.
Трапіў на старонкі кніжак —
Перажыў метамарфозы.

Кожны вечар на гулянку:
„Праменажы не пашкодзяць…”
Толькі выйдзе на Фантанку —
Верабей і Шпак падходзяць.

Як сышліся,
Пра бутэльку
Чык-чырык абавязкова.
Хапануць па кроплі — ўсцельку.
Брудзяць мову брыдкасловы.

За сарокамі ў бярэзнік
Бокам-скокам, кавалеры...
А адтуль і ў выцвярэзнік.
Даскакаліся,
Халеры...

* * *
Памахаў рукою праваднік,
Падміргнуў ліхтар —
як падражніўся.
Мой цягнік за паваротам знік.
Загуляўся я крыху.
Спазніўся.

Пакацілі ўдалячынь сябры —
Ёсць білеты да канечнай мэты.
„Эй, стары! Да сэрца не бяры...
Пакуры...
Ці маеш сігарэты?”

Падыму каўнер ад скразняка,
Недакурак затапчу пятою.
Не дагнаць мне болей цягніка.
Па зямлі пакрочу пехатою.

* * *
Ноччу зямля суцішыцца,
Дыхае лёгка і роўна...
Калі анічога не пішацца,
Думаецца ўсё роўна.

Абсягі, абшары, аблогі
Мінуўшчыну прыпамінаюць.
Шара зямнога трывогі
Сэрца майго не мінаюць.

* * *
Стогне, хрыпіць, завывае,
Кагосьці ў адчаі заве.
Завея, вядзьмарка сівая,
Збялелыя пасмы рве.
Ліхтар галавой ківае,
Цьмяна міргае ледзь-ледзь.
Маўклівай чаргой трамваі
Стаяць... паспрабуй праедзь.

Лаецца люд не груба,
Тае, злятаючы злосць.
У скоках высокіх праз гурбы
Штосьці ачышчальнае ёсць.
А ў краме крамяныя булкі
Б'юць пахам духмяным у нос.
Гавораць пра космас бабулькі,
Пра сувязь зямлі і нябёс.

* * *

Марознай сцюдзёнай раніцай
Месяц скруціўся смаўжом.
Здаецца, што можна параніцца
Ветрам, як вострым нажом.

Кудзеліцца лёгка мяцеліца,
Мароз працінае да слёз.
Сняжынак махнатыя цельцы
Казычуць гарэзліва нос.

А вуліца напаўняецца
Шоргатам шпаркай хады.
Працоўны дзень пачынаецца,
Бадзёры і малады.

## ВЁСКА

Вёска ўмела грашыць і не каяцца,
Багам назаляла смела,
Таму што галоўнага бога — Акрайца —
Нават на святы не мела.

І напівалася, і мацярылася,
Прыпамінаючы бога.
Яна і ў цвярозасці з ім не мірылася,
Бо многа рабіў благога.

Прылады працоўныя — граблі і вілы
Рабіла свяшчэннай зброяй.
Калі ваявала, захопнікаў біла,
Была не ў набожным настроі.

Не ціхай малітвай, не літасцю боскай
Квітнее зямля на ўздыме.
Святая навекі душа твая, вёска,
Адданасцю шчырай
Радзіме!

## У СТАЛІЧНЫМ БАРЫ

Сяджу ў кутку,
не п'ю, не ем,
Ды тут і кормяць вельмі слаба.
Крычаць ансамблі:
„Боні М”,
„Гітары” розныя і „Абба”.

Гляджу навокал, хто тут ёсць —
Падлеткі кучкамі і пары.
Злосць на сябе:
„Ну што за госць
Ты ў мадэрновым гэтым бары?”

Але адседжу два рублі,
Жыццё паназіраю збоку.
Прашу буфетчыка: „Налі
Чаго крапчэйшага, без соку...”

А ён, як помнік сам сабе,
Стаіць з пагардай непадробнай,
З прарочай складкай на ілбе.
Стой...
да каго ж ён так падобны?

І ціха памяць павяла
Ў пасляваеннае дзяцінства...
Наймалі з дальняга сяла
На вечар хлопцы гарманіста.

Яму плацілі, што маглі
(А не было ж нічога ў хаце):
Яйцо, праснак ці два рублі
Ахвяравалі моўчкі маці.

Ён забіраў усё без слоў,
Кароль... Прыбліжаны да бога...
Глядзеў на ўсіх паверх галоў,
Хоць сам расточка быў малога...

...Прыпомнілася спакваля,
А мо і не было забыта...
Гуляй, хлапец, у караля
На вечарынцы службы быту...

* * *
А з вамі ці было такое:
Аднойчы, светлаю парой,
Сярод душэўнага спакою
Раптоўна зменіцца настрой?

І штосьці ў сэрцы разаб'ецца
Дашчэнту — як і не было...
А побач сыта засмяецца
Зласліўца гладкае мурло.

## СТАЛАСЦЬ

Сталы век, узрост зусім сур'ёзны,
У вачах усмешкі адцвілі.
Зморшчыны — жыццёвыя барозны,
Цераз твар,
Як па зямлі,
Прайшлі.

Думка засяроджана на нечым,
Што адкласці нельга на пасля.
Непрацяглы шлях наш чалавечы —
Гэта зразумееш спакваля.

І здадуцца дробязнымі хібы,
І прыпомніш шчасце — ці было?
І пацягне ў родныя сялібы
Паглядзець, як жыта узышло...

* * *
Заціхла рэчка пад ільдом,
Здае зіме пасаду восень.

Шчаслівы той, хто мае дом,
Сагрэты шчырасцю адносін.

Няшчасны той, у кім няма
Таго, чым чалавек дабрэе.
Тады і лета, як зіма.
Тады і сонейка не грэе.

* * *

Я пасяджу яшчэ,
Я пагляджу,
Як загараюцца зоркі.
Спіць нерухома,
Схмялелы з дажджу,
Бярэзнік, падлетачак горкі.

Ціха ў гаях...
Для салаўя
Сёння не песенна — золка.
Мне больш даспадобы песня твая,
Сціплая перапёлка.

Дзесьці ў жытах,
У цёмных кустах
Чуюцца «шыць-палоці».
З дзяцінства ў сэрцы пяе гэты птах,
У радасці і ў самоце.

**ПЕСНЯ**

Па-над лесам, па-над гаем
Зорачка малая.
Зорачка малая
Дзяўчыне міргае.

Вецер жальбы не хавае,
Плача-завывае.
Плача-завывае
У гай зазывае.

Лёгкай хмаркаю накрыўся
Месяц.
Зажурыўся.
Месяц зажурыўся,
Чакаць замарыўся.

Ой, ты месяц, ой, ты вецер,
Ой, сястрычка-зорка.
Вам адным скажу на свеце,
Як мне сёння горка.

Што было, таго не верне
Ні бацька, ні маці...
Будзе іншую няверны
Пры вас абдымаці.

* * *

Сорак чатыры, сорак чатыры...
Якія на ўзроставай гэтай вярсце
Планы, адметы, арыенціры —
Няўжо толькі лёжка на ложку-тахце?

Крыўды, памылкі, іспыты — забыты.
Сцягнута голле сухое ў лаўжы.
Усё, што патрэбна для быта — набыта,
„Духоўнасць" ранжырыцца на сцелажы.

Не выйшаў ні ў геніі, ні ў камандзіры.
Цёпла, не капае, не церушыць.
Узрост пераходны мой — сорак чатыры -
Мяшчанству сябе не дазволь задушыць.

* * *

Не жву свае перажыванні,
У ступе не таўку ваду,
Жыву, пакуль на скрыжаванні
Не спатыкнуся на хаду.

Я пляц яшчэ не выбіраю
Сабе пад будучы грудок.
Табе, мой краю, гімн ствараю...
Перажыві мяне, радок...

* * *

**Один раз в год сады цветут...**

*З песні*

У сэрцы зноў цвітуць сады,
Хоць галава даўно сівая.
„Саромейся — не малады",—
Бывае, нехта не стрывае.

А я няведама куды
Бягу —
Не закілзаць настрою.
У сэрцы зноў цвітуць сады,
Цвітуць запозненай парою.

І, не чакаючы бяды,
Адчую боль, нясцерпны, хлёсткі.
Ах, адцвілі мае сады,
Апалі белыя пялёсткі...

* * *

Гавары пра той час, гавары,
І пра нас з той далёкай пары,
Быццам зыркія ліхтары,
Успамінаў гарэць кастры.

Гавары пра той час, калі
Мы зусім маладыя былі,
Як нас сцежкі кахання вялі
Пад бярозы і тапалі.

Гавары, як я моцна кахаў,
Як маўчаў ля цябе і ўздыхаў,
Вецер дрэвы ўсю ноч калыхаў,
Ды свіцілася неба страха.

Ты была прыгажуня, я — зух,
Ды агонь наш з гадамі патух.
Абляцеў тапалёвы пух.
Скроні белыя ў абадвух.

**СТАРАСЦЬ**

А колькі прайшло, а колькі?
Міма — лічы не лічы.
Колюць у сэрца колькі
Чакаюць паралічы.

Думкі абсядуць, як болькі.
Сумненні, як крумкачы.
А колькі наперадзе, колькі?
Не спіцца старым уначы.

**АЛЕСЮ ГАЎРОНУ**

Імчаў праз дні,
Як на кані.
Нябёс агні —
Гарні рукою...

Цяпер я прагну цішыні,
Хачу душэўнага спакою.
Нікога не апярэдзіў,
Не збіў наздзіў бліщчастых
зорак.
Узрост за сорак —
Адбрадзіў
Мой хмель.
Ужо не выб'е корак.

Сцяжынкаю ля бальшака
Я пешака іду да мэты.
Рука не ловіць хвост каметы —
Люляе ціха светлячка.

* * *

Злятаю з тармазоў радзей,
Спяшаюся няспешна.
Вучуся разумець людзей
Глыбінна, а не знешне.

Ёсць усяму свая пара —
Паводкі і завеяў.
І вохкаць і крычаць „ура”
Аднолькава не ўмею.

* * *

Падабаюцца простыя словы,
Як сырая вада для піцця.
Словы, у якіх першаасноваа

Нашага будзённага жыцця.

І калі зададуць мне пытанне,
Чым жыву я і чым даражу,
„Праўдай шчыраю, мірам, каханнем
І Радзімай маёй”,— адкажу.

* * *
Нязвыклае ў сэрцы зацішша,
Ні бур, ні страсцей, ні трывог.
Ніхто мне ліста не напіша,
Не пераступіць парог.

Як быццам зіма закавала
Сусветнае ўсё цяпло.
Ніколі ж не пуставала
Ні сэрца маё, ні жытло.

Я помню, як мы сябравалі:
Мы добраму другу ў бядзе
З сябе не сарочку здымалі —
Душу аддавалі з грудзей.

Цяпер жа... ці сталі старыя?
Ці ў сэрцах у нас заняпад?
Не. Проста такі перыяд —
Пройдзенага перагляд.

* * *
Застаюцца сляды праз гады
Ад усялякіх спраў.
Задумайся, малады,
Напрамак ці той абраў?

Лёгка без ношкі ідзеш,
Ножкі нясуць — куды?
Старасць спытае: „А дзе ж
Сляды ад тваёй хады?”

* * *
Прапечаны хатнія сцены
Сонцам за дзень — укрутую.
„Іду сёння спаць на сена” —
Каля дзвярэй рапартую.

Скацілася поўня на пуню,
Як каравай непачаты.
Пра арабінку-красуню.
Пяюць на вёсцы дзяўчаты.

Позняя гэта гулянка
Не ўсякай маме па густу.
Стаіць хто-ніхто ля ганка,
Сочыць сваю „распусту”.
Хвалююцца недарэмна,
Ім ёсць чаго хвалявацца:
Помняць, як самі на сена
Хадзілі не спаць — цалавацца.

**БЕЛАРУСЬ**

Выйду ў лугі,
На мурагі.
Вечар. Туман асядае.
Белая Русь мая, край дарагі,
Песню табе я складаю.

Барвы зары,
Рэчкі, бары,
Сінь васільковая ў жыце...
Толькі на дзень гэта ўсё забяры —
Чым буду жыць я, скажыце?

Зоркі ў траве,
Песня плыве,
Вольная наша, народная.
Хай жа, як песня, у сэрцы жыве
Край — Беларусь мая родная.

* * *

Падае жоўтае лісце
З яблыні пад акно.
Гэта было калісьці,
Вельмі ўжо даўно.

Ты васількоў нарвала,
Потым сплялa вянок.
Голасам ціхім спявала
Песеньку пра лянок.

Мой сум не знаходзіў выйсця
У сэрцы агнём пякло.
...Гэта было калісьці,
А можа, зусім не было.

* * *

Усё на зямлі здаецца
Магчымым, пакуль малады.
Па сцежцы жыцця
                                        ўлегцы
Бяжы — не лічы гады.
У часе,
          бы ў моры купайся,
Нябачны яшчэ берагі.
Дзень,
          як жыццё даўгі,
І хмельная ноч у запасе...

**З ЮНАЦТВА**

Плюшаўкі і ватоўкі,
Суконныя армякі.
Штурмуюць ля Камароўкі
Грузатаксі землякі.

Цяперака не да размовы,
Дыхаўку спёр напор.
„Кузаў жа не гумовы!" —
Крычыць традыцыйна шафёр.

Гэта для формы.
Вядома,
Уладкаваліся ўсе.
„Дадому, дадому, дадому”,—
Душу на калдобах трасе.

Забіўся ў куточак у самы,
Журчыць марозік праз тэнт.
Падсілкавацца да мамы
Едзе ў вёску студэнт.

**НА БУЛЬБУ**

Сінь азёр, зыркасць зор, залацістасць ільноў,
Распранутых лясоў сарамлівых прагаліны.
Зацярушаны восенню горад Сянно,
Пахне варанай бульбай,
Цыбуляй падпаленай.

На райкомаўскай плошчы парад — не парад:
Не бывае па стольki машын і на рынак.
А на кожнай машыне — вясёлы атрад,
То шукальнікі цяжкасцей
І вечарынак.

Забурліла ў крыві маладое віно,
Першакурснік, трымайся, у шапку не спі ты.
Будзе першая „бульба” твая ля Сянно
Мо важнейшым мужчынскім —
На сталасць —
Іспытам.

А пакуль што сядай на салому, на дно.
Між сакурсніц-спакусніц душа замірае.
Давярае табе сёння горад Сянно
Быць байцом бульбянога
Пярэдняга краю.

**ПЕРШЫ ГРОМ**

Гнуткае пугаўё —
Прамень красавіцкага сонца.
Гром над зацішшам гаёў
Прагрукаў на параконцы.
І голыя, як былі,
Бярозкі прыгнуліся ніца.
Ідзе па вясновай зямлі
Першая навальніца.

**ПРАЛЕСКІ**

Пралесачкі — кветкі,
Першыя дзеткі,
Найлепшыя сведкі вясны.
На цёплым пагорку
Блакітныя зоркі
Бачаць кароткія сны.

* * *
Вясновы лес з плячэй сваіх абтрос
Здранцвенне ад зімовай нематы.
У першы пошум маладых бяроз
Іду без шапкі, як у храм святы.

На ўзлеску, дзе пралескі ля дубка,
Я ціха ўкленчу слухаць цішыню,
І капне мне з зялёнага лістка
Сляза празрыстая на даланю.

* * *
Звонкія абцасікі,
Шалік праз плячо...
Нібы з верша класіка,
Чокае дзяўчо.

Постук лёгкі, цененькі,
Не хада — палёт.
Маладзенькім пеўнікам
Пырхнуць бы праз плот!

* * *
Рана пякучая, як ад нажа,
У сэрцы з твайго адказу.
І зарасла паміж намі мяжа
Густым быльнягом адразу.

А мне гэты боль ніяк не ўтапіць
Ні ў горкіх забавах, ні ў працы...
Як мне мяжу тую пераступіць,
Праз недавер перабрацца?

* * *
Ліст апошні сарваўся з асіны,
Затрымцеў, зазвінеў,
Каля лужыны след ласіны
Ноччу задубянеў.

Затаілася ўсё ў прыродзе
У чаканні зімы.
Ціха!
Нехта па лесе ходзіць,
Мусіць, сочыць, дзе мы.

Анікога.
Вятрыска ўздыхае
У гушчэчы лясной.
Мы кахаем.
Хай восень глухая
Будзе нашай вясной.

* * *
А мне ўсё ў памяці, павер,
І тая ноч, і тыя зоркі.
Ну, як ты маешся цяпер?
Прызнайся —
Шчасця смак не горкі?
І дзякуй богу...
У цяпле

Гадуй дачушку і сыночка.
Жыві шчаслівая...
Але
Прыпомні:
Што была за ночка!

* * *

Ты адказала мне адмоўна
Ледзь чутным сарамлівым „не”,
Але вачэй тваіх дзве поўні
Уладна вабілі мяне.

І рукі гнуткія, як лозы,
Мяне прывязвалі крапчэй,
Я асцярожна выцер слёзы
З тваіх разгубленых вачэй.

Світанак радасна-суцішны
Ужо з-за лесу паўставаў.
Я цалаваў цябе — як вішні
У спёку летнюю ірваў.

* * *

Пацалуемся — і разбегліся,
Назаўжды —
І такой бяды.
Глянь: дарогі паўсюды разлегліся.
Я сюды вось...
А ты куды?

Што ж ты, любая, разгубілася?
І з вачэй,
Як ручэй,
Капяжы.
Мо каханне яшчэ не разбілася
Пойдзем разам —
Ты толькі скажы...

* * *

Жаданае адбылося,
Збылося, чаго хацеў.
У вочы зірнуў: здалося,
У вір галавой паляцеў.

Ява ці сон гэта?
Дзе ты?
Быццам у дзіўным кіно,
Зоркі, планеты, сусветы
Перапляліся ў адно.

## СВЯТА

Прыпомні гэты дзень, прыпомні,
Святочны і квяцісты Май!
Гулі струной цымбальнай промні,
І ты сказала мне сама:

„Гайда, збяжым ад калектыву,
Заблудзімся ў жывым віры!” —

І ў вочы глянула смяшліва:
„Трымай руку мацней, стары!”

І мы пайшлі.
Сцягоў палотны
Шумелі, як вішнёвы сад.
І быў я нейкі бесклапотны,
Як быццам дваццаць год назад.

* * *
Не ідзе мая каханая
Да мяне.
Цішыня ўсхваляваная
Не засне.

Вухам да зямлі прытуліцца
Летні змрок:
Ці не чуецца на вуліцы
Лёгкі крок?

Пачынаюць зоры радзіцца,
Варажыць:
Да другога, можа, здрадніца
Пабяжыць?

А яна не вінаватая
(Што там кпіць?) —
У пакоі мамы з татаю
Хтось не спіць.

* * *
Я табе ніхто. Зусім чужы.
Выпадковы стрэчны-папярэчны.
Памаўчы, нічога не кажы,
У кахання ёсць закон адвечны.

Вунь зірні: з касмічнай глыбіні
Нам міргае зорка трапяткая.
Прыхініся, вусны разамкні,
Не чужая, блізкая такая.

* * *
Засмуцілася нешта дзяўчына,
І хусцінка скамячана белая...
Пацалую яе самачынна,
Бо спытацца,
ці можна,
нясмелы я.

Вельмі соладка без дазволу,
Ні кісліначкі і ні гарчынкі...
Мякка падаюць яблыкі долу,
Спяць над пуняю аблачынкі...

* * *
Хачу з табой падзяліцца
Усім, чым я сам багаты —
Сонцам і бліскавіцай,
Лесам і лугам за хатай.

Песняй шырокай і вольнай,
Мовай, якой ганаруся,
Зямлёй усёй навакольнай,
Паветрам маёй Беларусі.

Хадзем са мною, дзівачка,
Не трэба нічога баяцца.
Прыме нас ночка-сваячка,
Адорыць новым багаццем.

* * *
Як бы я жыў без цябе,
Самотны і ўдзень, і ўначы?
З лёсам у калацьбе
Ці змог бы перамагчы?

Хто б засланіў ад слаты
На скрыжаванні дарог?
Ад чорнай бяды,
Каб не ты,
Хто б мяне перасцярог?

* * *
Ці пойдзеш са мной, як скажу,
Што жыць мне толькі табой,
Праз буру і праз імжу,
Праз восеньскі лістабой?

Як ведаў — дарэмна зваць.
„Не!” — аж звініць увушшу.
Аж хочацца грудзі парваць,
На вецер пусціць душу...

* * *
Змятае восень залатая
Сухое лісце каля дрэў.
Ці ты цяпер ужо не тая,
Ці я так моцна пастарэў?

Нібы нацяты, змрок кудлаты
Вартуе дбайна цішыню.
Якая вабная была ты!
Быў я ўлюбёны — не зману.

Не тыя мы, але святыя
Хоць успаміны не гані...
Блішчаць пярсцёнкі залатыя,
Міргаюць хітра камяні...

Я досыць па зямлі блукаў,
У тлуме і ў вірах губляўся.
Цябе — адзіную — шукаў
І неаднойчы памыляўся.

Але агонь не патухаў,
Але жыло ў душы імкненне.
Я ўсё жыццё цябе кахаў.
Кахаю — кожнае імгненне.

**ВЯСЕННІЯ ЗАЛІКІ**

Здаюць завочніцы вясеннія залікі,
Расказваюць пра прэзэнс і пэрфэкт,
А у вачах іх — сонечныя блікі,
А за акном квяцісты белы свет.

Завочніцы граматыкі не знаюць,
Выкладчык зараз ад нуды засне.
Ён пазяхае...
А яны лунаюць
У марах, у каханні, у вясне.

Выкладчык у гадах.
Яго дыханне
Курыльшчыка старога выдае.
Прыпамінае першае каханне,
Залікі ставіць,
Сэрцам адтае.

* * *

Праз ноч іду.
Чуваць далёка крокі.
Суцішыць грукат сэрца не магу.
Ліхтар падслепаваты на рагу
Міргае мне,
Мой сябра сумнавокі.

Вакол ані душы.
Днець пачынае хутка.
Ці мне шукаць сяброў,
Ці разбудзіць радню?
Вось будка тэлефона.
Пазваню.
Ужо мне бачыцца,
як ты прачнешся пудка.

Спакойна спі.
Я глупства не зраблю.
Раскрыйся...
Душна пад сямейнай коўдрай?
А я хадой павольнай і няцвёрдай
Пакрочу ў раніцу.
Я досвіткі люблю.

* * *

З магнітафонам каля акна
Падлеткі на варце начлежнай.
Круціцца стужка.
Мне добра чутна
Песня на мове замежнай.

Сціплая песня пра восеньскі парк,
Пра ўпартасць дзявочай надзеі.
Не разумее нічога „хіпак”,
Проста ад ночы „балдзее”.

* * *

Пад вечар прасілася:
„Мама, пусці
Схадзіць да Наташкі-сяброўкі.
Вярнуся дамоў не пазней дзесяці,
Мы толькі паробім урокі...”

Не паспявала злічыць і да трох
Зацалаваная маці,
Як птушкай дачушка —
Пырх за парог,
І пуста рабілася ў хаце.

Дзяўчына ляцела.
Ад шпаркай хады
Аж дыхаць рабілася цяжка.
І бег ёй насустрач хлапец малады...
Дык вось яна што за Наташка!

Дванаццаць гадзін...
А ці маці засне?
Нарэшце на лесвіцы крокі...
„Ой, мамачка, татка, даруйце вы мне,
Вельмі цяжкія ўрокі...”

## СМАК ПЕЧАНАЙ БУЛЬБЫ
## *(Вясковыя замалёўкі)*

### НЕ ПЛАЧ, ГІТАРА...

Спрачаюцца.
Вёску хто ганьбіць, хто хваліць,
Гэнаму — пекла, а гэтаму — рай.
І я б не ўтрымаўся...
Ды чую: сігналіць
Шафёр з напамінам: студэнтаў збірай!
Тым, пакаёвым, ёсць час даспрачацца,
А мне...
Вунь машыны пастроены ў рад.
Збіваючы з ног, без каманды імчацца
Дзяўчаты і хлопцы — мой „бульбаатрад”.
І вочы, і твары —
Нібы на пажары...
Ты, вёска, счакалася гэтых гасцей?
Праз борт стрымгалоў яны...
Толькі гітары
Даюць асцярожненька, нібы дзяцей.
Без тых інструментаў пражыць бы павек мне,
Я рос пад гармонік — з ім песні мае.
Цяпер без гітары і козлік не мэкне,
Ніводзін пясняр без яе не спяе.
Сядай, гітарыст, на пачэснае месца,
У самы куток, на вышэйшы хатуль.
Дзявочае сэрца табе адамкнецца,
Калі ты заўважыш якую адтуль.

Пакуль што не бачыць...
Гітару наладзіць
Карціць да ад'езду
І песню пачаць.
Яе, як дзяўчыну, ён песціць і гладзіць
І просіць вачыма усіх памаўчаць.
Тулі ж, кучаравы, сваю сяміструнку,
Як бацька калісьці трохрадку туліў.
Толькі праз моду не збоч з накірунку,
Каб енк той душу табе не спапяліў...

**КАЛІ ШАФЁР НЕГАВАРКІ...**

Нарэшце рушылі і мы —
Далі сігнал на старце.
Шматпавярховыя дамы
У ганаровай варце
Праводзяць, можа, ў першы шлях
„Байцоў" маіх ад маці,
Падыхаць ветрам у палях
Пажыць у нечай хаце,
Дзе ўсё амаль — у навіну
Ад звычак да гаворкі,
Дзе вецер грукае ў сцяну,
Дзе ноччу спеюць зоркі,
Дзе смак паветра не такі —
Настой раллі і лесу...
Маўчыць шафёр негаваркі,
І я ў душу не лезу,
Бо справы ў кожнага свае
І думкі — адпаведна.
Матор прыглушана пяе,
І сонца тазам медным
Вось-вось закоціцца ў акно,
Як мяч за шыбай скача...
Трывожна ў сэрцы: як даўно
Я родны кут не бачыў —
Лясную вёсачку — куток,
Грыбны, вішнёвы, кмінны,
Мой першы подых і глыток,
Што на зямлі адзіны...
Там вераснёвая пара —
Час рупнага ўраджаю.
Відаць, счакалася сястра:
Чаму не прыязджаю?
Ужо і лета адцвіло,
Няма надзеі болей.
Пацее неба, нібы шкло,
Ад першай стылай золі.
Яна за вёску выйдзе зноў
З прытоенай трывогай.
Ані братоў, ані сыноў —
З аўтобуса — нікога.
А трэба ж бульбу выбіраць,
Пакуль не плача неба.
Каго ж папросіш разараць,
Калі сваім не трэба?
Даруй мне, родная мая!
Ды я — ці вінаваты?

То справы ціснуць, то сям'я,
Не вырвацца дахаты.
Але я вузел развяжу,
Прыеду ў часе скорым.
З табой да ранку прасяджу,
Пра ўсё перагаворым —
Пра сваякоў, пра землякоў,
Каму дзе шчасце свеціць,
Пра думкі горкія бацькоў,
Калі не пішуць дзеці.
А раніцай вазьму тапор,
І зазвініць калодка...
...Нарэшце вымавіў шафёр:
„А вось і паваротка...”

## У БРЫГАДЗІРА —
## СВОЙ ГОНАР МУНДЗІРА

У брыгадзіра —
задача цяжкая.
Пот ручаямі па твары цячэ.
Сонца заўзята яшчэ прыпякае,
Ды „ўнутраны градус” дыханне сячэ.

Ён зухаваты яшчэ, не брухаты,
Рухавы іжвавы —зусім не стары.
Аж солана ў роце — ад хаты да хаты
Пабегай, „з прабоямі пагавары”.

Учора дамовіўся, мірна, у згодзе,
Колькі студэнтаў каму прывядзе,
А сёння нікога — ані ў гародзе,
Ні ў хаце, ні ў хлеве — няма анідзе.

Палітыка гэта каму невядома?
Яна на ўзбраенні вяскоўцаў — гады.
Наўмысля ўсе пасыходзілі з дому,
Пагойсай цяперака, д'ябал худы!

Можа, прыпомніш, як сена касілі,
Як адмяраў ты бабулям шматкі,
Як потым каня на гадзінку прасілі,
Ты ж быў, як гусак, непрыступны такі.

А неба чысцюткае, нібы люстэрка,
Прыпаміналa: што высахла — звозь!
Цягнулі бабулі на стол паўлітэрка:
„Дык зойдзем жа ў хату, суседзейка... вось!”

Стоячы моўчкі, нябачна сачылі,
Як прагна ты гэну „слязу” выпіваў.
І за кампанію вусны мачылі,
Глядзелі, як твар твой мякчэў, адтаваў.

Сёння без слоў табе кажуць: „Прыпомні!
Усё адгукнецца — а як ты хацеў?”
...У хаты і ў дрэвы ўпёрліся промні.
Вечар... Як дзень ужо пакарацеў!

З поля каровы прыйшлі. Сырадоем
Запахла над вёскай, хоць кубак бяры.
Павесялелы, бадзёрай хадою
Разводзіць „байцоў” брыгадзір у двары.

І гаспадыні, што справай заняты,
З рукамі, невымытымі ад зямлі,
Вядуць у пакоі, у „чыстыя хаты”,
Паказваюць ложкі, што ім адвялі.

„Зараз гарачую бульбу дастану,
Прыбраць трэба ў сенцах, хоць крыху, абы...”
Нясуць памідоры, гуркі і смятану,
Салёнае сала, варэнне, грыбы.

Стол акружаюць вясёлыя госці,
Ядуць і смяюцца, вачамі стрыгуць.
Яны ж не садзяцца.
Чакаюць кагосьці.
Здаецца ім: дзеці дадому бягуць.

## АГАЦІНА ХАТА

Памерла бабуля Агата.
Замоўкла зязюля ў бары.
Пустая Агаціна хата
Стаіць сіратой
З той пары.
Пайшла на спачын.
Пахавалі.
Дочкі, зяці і сын
Сабраліся,
Падрыхтавалі
Маці апошні памін.
Адплакалі горкае гора.
Выпілі келіх да дна.
Яна не любіла горад.
Казала:
„Я лепей адна”.
Суседка — Марыля-залоўка
Над хатаю шэфства ўзяла.
„Няхай сабе будзе сталоўка”,—
Ключ брыгадзіру дала.
А ён,
Прыхіліўшы ровар
Да плота,
Дастаў закурыць.
„А ты будзеш, Мар'я, шэф-повар.
Будзеш студэнтам варыць...”
Вясёлыя перамены
У хаце —
Прыборка, мыццё.
Зацікаў гадзіннік насценны
З зязюляю — вось і жыццё.
Кветак прынеслі дзяўчаты,
Астры не адцвілі.
Фота бабулі Агаты
У шафе пустой знайшлі.
Уставілі ў рамку —

І сумна
Агата глядзіць цераз шкло.
Не ўспомніць,
Калі гэтак шумна
У хаце яе было.
Мясцовыя кавалеры
Ужо з радыёлай ідуць.
Сёння пасля вячэры
Пад вокнамі пылу дадуць.
Дзе ён, каторы абраннік?
Ці не знайшоўся яшчэ?
Гарачы — з патэльні — дранік —
Дзявочыя вусны пячэ...
Выйду на вуліцу.
Поўня,
Як медальён, на сасне.
Я сёння юнацтва прыпомню.
У сне
Прыйдзе мама ка мне.

## ЧЫСТАЯ ЛІРЫКА

Восень яшчэ не сівая,
Буяе атава-трава.
Як маладая ўдава,
Восень узрост не хавае.

Хмурыць не думае бровы.
Глянь на ўскраек лясны —
Не горш, чым у вясны,
Яе сарафан каляровы.

Што там стракатае плацце...
Восень — пара дабрыні.
Гэтыя ціхія дні —
Сталай душы багацце.

Летам — спякота густая,
Холад, завеі — зімой.
Узрост вераснёвы мой!
Вітаю цябе, вітаю!

Ветрам нячутным па лесе
Ступаюць мае гады.
Хопіць! Пабыў малады...
Хопіць! Пакуралесіў...

Восень у ясным паглядзе
Пасеяла розум і сум.
Спее ўраджай задум,
Падаюць яблыні ў садзе...

## СОНЦА ЗАПОЗНА ЎСТАЕ...

Сёння даю інтэрв'ю,
Ці лепей: заяву раблю
Пра дружную, як сям'ю,
Групу, якую люблю.

Трыццаць дзяўчат і хлапцоў
(Дрымучае валассё),
Трыццаць „сельгасбайцоў”,
Дзе кожны гатовы на ўсё.

Могуць дзівосы ствараць —
Толькі крыху падвучы.
А сад чужы абабраць —
Нават да трох не лічы.

Раніца. Дзевяць гадзін.
Туман яшчэ не асеў.
Байцы мае, як адзін,
Ужо на полі ўсе.

Так і павінна быць.
Нам распарадак— закон.
Толькі — што будзем рабіць,
Пакуль не абсохне лён.

Мазгамі, як хочаш, круці.
Раса. Значыць, лён сыры.
Раней, чым з гадзін дзесяці,
Пра вязку не гавары.

Высахне — будзем вязаць,
Будзем сарціраваць.
„Трэба абавязаць
Сонца — раней уставаць!”

Штатныя жартаўнікі
Не прамінуць нідзе...
Вунь брыгадзір нацянькі
Ровар за рогі вядзе.

Вітаемся ветліва з ім.
„Залёгкі для нас рэжым,
Вось без работы сядзім,
Дакладней: пад стогам ляжым.

Прыехалі ж працаваць,
А не адлежваць бакі.
Ці нельга б замацаваць
За намі транспарт які?

Што звязана, трэба вазіць,
Пакуль не нашкодзіў дождж...
Чаму б не пачаць грузіць
Цяпер?”
Брыгадзір: „Анягож...”

Глянуў ён з-пад далані,
І нібы адбыўся цуд:
У ранішняй цішыні
Пачуўся матораў гуд.

Ужо і машыны відаць.
„Каманду давай, камандзір!
Хто ўмее вазы укладаць? „ —
Цікавіцца брыгадзір.

Нам гэта не навіна.
Возім жа лён — здавён.
Шмат хто ўмее: яна
І тыя хлапцы: ён і ён.

Укладчыкі, хутка наверх!
Па два на машыну — пайшлі!
Канчайце забавы і смех,
Шафёр, да капешак рулі!

Заўтра падлічым рублі,
Колькі каштуюць стажкі.
Будучыя куркулі,
Рыхтуйце пад грошы мяшкі!"

Можна цяпер і пакпіць,
Нязлосна і без пагард.
Калі работа кіпіць,
Да месца бывае жарт.

Глянь! Не „сачкуе" ніхто.
Не трэба прасіць і гразіць.
Скідаю і я паліто,
Грузіць, дык усім грузіць!

Вазы, што твае курганы,
І рух іх паважны, цяжкі...
Ля самага неба яны —
Нястрыжаныя бажкі...
Мае выхаванцы!

**ЛІСТ ДА САМАЙ БЛІЗКАЙ**

Шчыра вітаю, каханая!
Цалую цябе і дачок.
Ветрам закалыханая,
Пад шчочкаю кулачок,
Спіць „вёска неперспектыўная"
(Як любіць казаць старшыня),
А навакол калектыўная,
Дружная цішыня.
Толькі на кухні, у тумбачцы
Мышка фанеру скрабе.
Ноччу ёсць час задумацца.
Не спіцца.
Пішу табе.
Вёска — ў мінулым вялікая,
Больш сотні гаспадароў...
Шуміць пустазелле дзікае
На месцы былых двароў.
Стала амаль бязлюднаю:
Бабулі адны і дзяды.
Зруб абваліўся над студняю —
Не набярэш вады.
Думаем шмат аб якасці:
Ці важкі калгасны куль?
А гэтая абыякавасць
Да родных бацькоў —
Адкуль?
З гэткімі запытаннямі...
Даруй...

Больш не буду...
Шабаш!
Змяркання!” лепш ды світаннямі
Аздоблю вясковы пейзаж.
Месяц вісіць у бязважкасці
Якраз у маім акне.
Такія-сякія цяжкасці,
Прызнаюся,
Ёсць у мяне.
...Машына пайшла па вуліцы.
За поўнач — няўжо працаваць?
А хто там у кузаве туліцца?
Паехалі ў клуб танцаваць.
Можа, не перакуліцца,
Калі Васіль не п'яны.
Спытайся —
Не скажа вуліца,
Што там былі за яны.
Вучана тысячагоддзямі:
Начальству —
Ні „мэ”, ні „бэ”...
Што вы, таварышы!
Годзе вам!
Турбуюся ж не аб сабе.
Лепш памаўчаць усё-такі...
Хоць потым убачыць —
Дарма:
Ад цёткі да цёткі
Употайкі...
Шэптам...
І тайны няма.
...Вось так я жыву, каханая.
Турботы ўсё, дзень пры дні.
Ветрам закалыханая,
Спіць вёсачка.
У вышыні
Гудзіць самалёт рэактыўны —
Таксама пайшоў на спачын.
На гэтым
Твой неперспектыўны
Цалуе цябе і дзяўчына.
...Для суму няма прычын.

## ДОЖДЖ НА ДОСВІТКУ

Пад раніцу дождж усмаліў,
Калі ўжо канчаліся сны.
Ён ліў і сябе весяліў,
Смелы, буйны, праліўны.

Вялікія,
Можа, з арэх,
Грукалі кроплі ў сцяну,
Цурчалі, сцякалі са стрэх,
Збягалі ў адну баразну.

А потым — хутчэй з вачэй —
Ля агародаў, садоў
Зліваліся ў ціхі ручай,

Што звaўся ракой у дзядоў.

Казаў мне адзін з дзядкоў,
Гадкоў яму — каля ста:
„Во гэткіх, браток, шчупакоў
Лавіў я ў кустах ля маста...”

Ужо не засну.
Пяць гадзін.
Будзільнік звініць.
Глушу.
Здаецца:
Я ў свеце адзін
З шумам дажджу ўвушшу.

І лезуць, як горкі праклён,
Думкі пра лён і пра лён.
Не вывезлі колькі капён?
Змокнуць...
Як быццам мільён
Дзяржаўны
Згубіў ці прапіў,
І плачуць сіроты мае.
Лупіць ваўсю, як лупіў
Дождж.
Гаспадыня ўстае.

„Будзільнік звінеў ужо?
Сплю.
Як перад нейкай бядой.
Дождж, дзякуй богу, зямлю
Напоіць нарэшце вадой.

Мякчэй будзе бульбу капаць
І на зімку лепей араць...
І собіла ж мне праспаць...
Ці дожджык жа мне дакараць?

А лён ваш... нішто, пастаіць,
Ветрам прадзьме, прашурхне.
Ой, трэба ж кароўку даіць.
Ганіце ж, ганіце мяне...”

## ХВАЛА КІРЗАВЫМ БОТАМ

У гэтых не забуксую,
Хай гразка, хай лівень ліе.
Мыю, сушу, ваксую,
Кірзовыя боты свае.

Работа — найбольшае свята.
Блішчаць ад пяты да мыска
Боты — абутак салдата
І рупнага працаўніка.

Бывалі і ў пыле, і ў попеле,
У сыпкім пяску і ў снягу.
Пратопалі ўдоўж і ўпоперак
Стэпы, пустыні, тайгу,

Айчыннае бездарожжа,
Сталіц еўрапейскіх брук…
Сніўся ваякам варожым
Ботаў кірзовых грук.

У партызанскім атрадзе
Іх шылі начамі шаўцы.
У іх на святочным парадзе
Крок адбівалі байцы.

А мне для вясковай працы
Лепшага не знайсці:
Праз лужыны перабірацца,
Без сцежак па полі ісці.

Калі ж уначы баявую
Трывогу дадуць трубачы,
Я ўскочу і хутка абую
Салдацкія „кірзачы”.

І як належыць салдату —
Выканаю запавет:
Абараню гэту хату
Краіну сваю
і свет.

## ПАРА ПАГРЭЦЦА ЛЯ КАСТРА

Восень ездзіць на рабым кані:
Дожджык заімжыць і перастане,
Сонна сонца на палеткі гляне,
А ў паглядзе цеплыні — ані.

„Беларус” затахкаў: тра-та-тах,
Да буртоў паехаў разгрузіцца.
„Можна адпачыць…”
Ды не сядзіцца,
Ломяць сухастоіны ў кустах.

Сабяруцца ўсе каля кастра.
Здыме нехта цесны бот гумовы.
Для душэўнай сцішанай размовы —
Самая найлепшая пара.

Нават той, хто на язык васцёр,
Ля агніска сціплы прыціхае,
Памаўчыць, а то і паўздыхае,
Задуменна гледзячы ў касцёр.

Закрані душу…
І ўбачыш цуд:
Люд яршысты думае цвяроза.
Хтось прыпомніць Міхася Мароза —
Ён загінуў недалёка тут.

Хтось пачне мяне атакаваць,

Сыпаць запытаннямі трывожна:
Як жа трэба жыць — ці асцярожна,
Ці свой нос саваць,
Рызыкаваць?

А касцёр патрэсквае, гарыць,
Слухае цікавыя размовы.
„Не было, сябры, такой умовы —
Ля кастра паўдня прагаварыць.

Хто вядзерца бульбы прынясе?
Зараз яе ў прысак закапаем.
Зверху дроў паболей накідаем...
Каштавалі печаную ўсе?

Апетыт рыхтуйце у запас.
Будзем сілкавацца, як прыстанем.
А на філасофскія пытанні
Мудры час вам прынясе адказ.

А цяпер на бульбу — працаваць!
Вунь пустая пазяхае скрынка.
Дзе сягоння будзе вечарынка?
Вось не раю дзе рызыкаваць...

**ЧЫСТАЯ ЛІРЫКА**

Не плачу, няма ў мяне слёз,
Гэта — вада дажджавая.
Вёсачка — боль мой і лёс —
Сёння свой век дажывае.

Я — гэны малы пастушок,
Што босы гнаў статак на росы.
Дзіравенькі кажушок
Мяне саграваў у марозы.

А крапіва з лебядой
Найлепшым ласункам бывала.
Нічога мне талай вадой
З памяці не пазмывала.

На раздарожжы стаю,
Ніяк сябе не перайначу.
Пра новую вёску пяю,
Аб адыходзячай плачу.

Зашмат я набраў напавер —
Ці выплачу, ці адчастую?
Магутная НТР
Спіша даўгі падчыстую.

І мерку — старэнькі аршын —
Кіне ў лірычнае смецце.
Сталёвую песню машын
Вецер разносіць па свеце.

Вёсачка — боль мой і лёс —
У сэрцы навечна жывая.

Не плачу.
Няма ў мяне слёз.
Гэта вада дажджавая.

**ПАМЯЦЬ**

Сціхлі за вёскай машыны,
І свет патануў у цішы.
Познім змяркannем жанчына
Ідзе па бязлюднай шашы.

У чорным уся.
Нетаропка
Крочыць па ўскрайку з кійком.
Туды, дзе нябачная кропка —
Зорка блішчыць над грудком.

Сустрэчны яе павітае —
Вочы не ўскіне свае.
Зямля, яна не святая,
Шмат хто яе пазнае.

Кажа адзін: „Ды гэта ж
Ганна з Вялікіх Двароў...”
Іншы даводзіць: „Альжбета
Сымонава з хутароў...”

Трэці пярэчыць: „Прузына...
Бачыў выразна — яна...”

...Маці ідзе да сына,
Якога забрала вайна.

Спыніцца ля абеліска
Між гонкага сасняка,
Як некалі над калыскай
Малога свайго сынка.

Кожны дзянёк прыгадае,
Як да вайны жылі.
Самотная прыпадае
Грудзьмі да халоднай зямлі.

І слёзы з вачэй жанчыны
Гараць светлякамі ў жарстве.
...Горкая памяць Айчыны
У сэрцах навекі жыве.

**ВЕЧАР СУБОТНІ ЧАКАЕ**

Дарога асенняя, траска і гразка,
Вецер аблокі парваў на шматкі.
„Вася, цішэй, не гані, калі ласка...” —
Дзе там... газуе, аж пырскі ў бакі.

У Васі азарт халасцяцкі, здаровы,
„Газон” яшчэ новы на днях атрымаў.
„Будзь асцярожны, бо людзі — не дровы...” —
„Не растрасуцца, не дровы... дарма...”

Апошнія дні нам надвор'е гадзіла.
Сумуем па дому ўжо. Скора усё.
Сёлета бульба надзіва ўрадзіла,
Кожная бульбіна — як парасё.

Бульбакапалка — руплівы араты —
Клубні вытрэсвае — толькі бяры.
Быў кінуты лозунг: „Па тоне на брата!”
„Брат” выдаўсустрэчны: „Сястры — паўтары!”

Дзвесце гектараў — кавалачак файны,
Краю нябачна за купкай альшын.
Там, каля лесу, пусцілі камбайны.
Адвозіць к буртам не хапае машын.

Сёння субота, і Вася ў гуморы.
„Дадому, дадому!” — газку наддае.
Не адчувае ні стомы, ні зморы,
А сэрца святочна пяе пра ЯЕ!

Сэрца пяе пра каліну-рабіну,
Пра зорачкі ў небе, якіх не злічыць.
Пасадзіць ён сёння дзяўчыну ў кабіну,
У цёмную ночку яе паімчыць.

Запыніцца недзе ў маўклівай прасторы,
І пацалунак душу апячэ...
Не спі, старшыня... Выкрадаюць шафёра!
Пабачыш — у горад за ёй уцячэ...

## МАНАЛОГ ДЗЕДА СЦЯПАНА НА ПАЛКУ Ў ЛАЗНІ

Падсып, хлапец, падкінь душку.
Дай венікам дарвацца.
Ці на палку у кажушку
Параіш саграваецца?
Лі поўным кубкам — не гадай,
Прапаркі косці просяць.
Лепш перадай, чым недадай,
Галоўнае — каб досыць.
Каб працінала да нутра,
Каб цела аж трымцела.
Хай злазіць чэрствасці кара
З душы, як затлусцела.
Адно не вытрываць — рубцы
Пякуць, нібы жалеззе.
Бывае спудзішся: капцы,
Вайна, брат, бокам лезе.
Але ахаланеш крыху,
І адыходзяць страхі.
„Ты ж — партызан...”
І навярху
Зноў хвошчаш сцёгны, пахі.
Бярозавы здаровы дух
Ад усяго палечыць.
Каб спрытным быць да маладух,
Хвашчыся, чалавеча.
Мне семдзесят, а к дактарам
Не бегаю з нудою.

Як віп'ю з лазні дзвесце грам —
Паладжу з маладою!

**РАЗВІТАННЕ Ў КАНТОРЫ**

Зямля, што мае форму кулі,
Мільгае між планет і зор.
Яшчэ марозы не закулі
Прыдзвінскіх рэчак і азёр.

**СУБОТА МАЯ БЕСТУРБОТНАЯ**

Выходжу на вуліцу людную
Хадою павольна-ўрачыстаю.
Вясковую вопратку брудную
Перамяніў на чыстую.

Штаны мае — адпрасаваныя,
Туфлі — наглянцаваныя,
Сам чысценькі — толькі з ванны я,
Намеры мае — незаганныя.

Не звязана рупнаю справаю
Субота мая бестурботная.
Пахне бензінам і каваю
Паветра туманна-вільготнае.

Іду сабе ды пасміхаюся,
Думкі, як птушкі, няўлоўныя.
Сяду ў трамвай — калыхання,
Над вухам размовы — шматслоўныя.

Магу назіраць гадзінамі
Будзённасць непаказальную:
І таўкатню магазінную,
І мітусню прывакзальную.

Сябра ў абдымках паціскаю,
Колькі не сустракаліся?
Стаіць у чарзе за падпіскаю.
„Каго вы там дачакаліся?”

Дадому галодны вяртаюся.
Пахне на кухні катлетаю.
„Як справы?” — бадзёра спытаюся
І захінуся газетаю.

А ноччу прыходзіць бяссонніца,
Прысніцца пад самую раніцу:
Вёска за горадам гоніцца,
А горад смяецца і дражніцца...

**ЗМЕСТ**

*** Змятае восень залатая
*** Я досыць па зямлі блукаў
Вясеннія залікі
*** Праз ноч іду
*** З магнітафонам каля акна
*** Пад вечар прасілася
Смак печанай бульбы
Не плач, гітара
Калі шафёр негаваркі
У брыгадзіра — свой гонар мундзіра
Агаціна хата
Чыстая лірыка
Сонца запозна ўстае
Ліст да самай блізкай
Дождж на досвітку
Хвала кірзавым ботам
Пара пагрэцца ля кастра
Чыстая лірыка
Памяць
Вечар суботні чакае
Маналог дзеда Сцяпана на палку ў лазні
Развітанне ў канторы
Субота мая бестурботная

**Папковіч Ул.**

Зерне: Вершы. — Мн.: Маст. літ., 1982. — 127 с.

Уладзімір Папковіч з таго пакалення, якое зведала вайну ў дзяцінстве. Пра гэта многія вершы. А таксама пра маці, родны край, усхваляванае каханне.